3 Вуліца Ружанская: учора і сёння
4 Новое звание — супермилиционер
5 У нас быў Міхаіл Гарбачоў



Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская





№15 (148). 6 — 12 красавіка 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 65 руб.

# Вёска, якая паміраe



Фота Віталя ГІЛЯ

**Вёска Шулякі знаходзіцца на мяжы Зэльвенскага і Слонімскага раёнаў.**

У Шуляках толькі адна вуліца з хатамі, хляўчукамі. Жывуць там, як нам сказалі ў Сынковіцкім сельскім савеце, дзесяць чалавек. Праўда, хат тут значна больш, але многія з іх пустыя. Калі мы ішлі па Шуляках, то адчувалася, быццам тут нядаўна прайшоў буран. Нейкі страх нас ахутаў, калі мы бачылі хаты без вокнаў, без даху, без дзвярэй. Але ў дамах, дзе жывуць людзі, быў парадак і чысціня. Першым, з кім нам давялося пагутарыць, быў Мікалай Піліпавіч Ярмак:

— Вёска наша паміраe. Дажываем і мы, пенсіянеры, свой век. Вельмі брудная ў нас вуліца. Няма магазіна. Два разы на тыдзень прыязджае з Зэльвы аўталаўка, якая прывозіць хлеб, цукар і макароны. А за вёскай наш калгас "Рассвет" зрабіў звалку, звозяць сюды смецце з усёй гаспадаркі, — сказаў Мікалай Ярмак.

(Працяг на 2 стр.)

РЭХА ВАЙНЫ

## Снарады каля газаправода "Ямал-Еўропа"

**30 сакавіка ў лесе, недалёка ад вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна, быў выяўлены арсенал снарадаў з часоў апошняй вайны.**

На гэты смертаносны "клад" на глыбіні паўметра натыкнуўся экскаватаршчык, калі пракладваў траншэю пад кабель тэлефоннай сувязі. Цуд выратаваў ад бяды не толькі яго, але і ад катастрофы газаправод "Слонім-Гродна", які праходзіць побач. Больш таго, цяжка нават сабе ўявіць, што здарылася б у выніку выбуху, бо ў некалькіх соцен метрах ад знаходкі пракладзена і газавая магістраль "Ямал-Еўропа".

Адразу па трывозе былі выкліканы са Слоніма інжынерна-сапёрны батальён, міліцыя і пажарныя. Увесь дзень сапёры ў складзе падпалкоўніка Сяргея Федасюка, прапаршчыка Уладзіміра Лямзіна і сяржанта Аляксея Бабочна абясшкоджвалі тэрыторыю ад нямецкіх снарадаў. А іх у зямлі аказалася аж 144. Пасля снарады пагрузілі ў машыну і вывезлі на Заградзінскае поле, што ў 2-х кіламетрах ад Хадзявіч. Там іх партыямі па некалькі штук узарвалі.

Кіраваў аперацыяй па ліквідацыі небяспечнай знаходкі начальнік інжынерна-сапёрнай службы Слонімскай механізаванай брыгады падпалкоўнік Мікалай Папоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Падпалкоўнік Сяргей Федасюк і прапаршчык Уладзімір Лямзін каля небяспечнай знаходкі*

Геннадий Бабошкин:

## "Я РОС В ОБЫЧНОЙ СЕМЬЕ, но никогда не нуждался в деньгах, потому что сам их зарабатывал".

**Геннадия Бабошкина в Слониме знают многие: кто заочно, кто лично, как музыканта, певца, любителя спорта, бизнесмена или просто как человека. Так кто такой Геннадий Бабошкин? Об этом с ним наша беседа.**



***— Геннадий, расскажи немного о себе.***

— Мне тридцать шесть лет, я коренной слонимчанин. Мама имеет белорусско-польские корни, а отец—русский, родом из Саратовской губернии. У деда по отцу была фамилия Бабушкин, он в сталинское время был сослан в казацкие степи. Когда после ссылки деду выдавали документы, то написали Бабошкин. А простые люди всегда подневольные, и дед не стал ничего оспаривать. В моей семье говорят, что известный революционер Бабушкин – мой дальний родственник.

Отец в Слониме служил в армии, а мама работала медсестрой. Поженились. Так родился я.

Учился в СШ №4, очень знаменитой в то время и любимой мною сегодня. Я благодарен судьбе, что у меня были такие талантливые учителя, как Жуковский А.С., Сергейчик И.П., Игнатик С.И., Полищук А.В., Лишик Н.В. В школе я никак не мог определиться со своей будущей профессией. Поступал в суворовское училище (не прошёл медкомиссию), хотел быть учителем и поступал на истфак Гродненского университета (не прошёл по конкурсу). Любил музыку, был лауреатом первого Республиканского конкурса "Чырвоныя гваздзікі". Играл в ансамбле, что тогда было модно, на вечерах, танцах, свадьбах, а затем работал в РДК. В армии я попал в ансамбль песни и пляски "Тачанка" Белорусского военного округа, где был солистом, кстати, вместе с Ярославом Евдокимовым. Приобщение к серьёзной музыке определило дальнейшую мою жизнь.

В 1984 году я поступил в Минский институт культуры на хоровое отделение. На втором году учёбы женился, перевёлся на заочное отделение и работал директором клуба кардонно-бумажного завода. Затем я стал президентом футбольного клуба "Альбертин". В 1991 году организовал с друзьями кооператив, который впоследствии вырос в фирму "Телкон". Женат, имею дочь и сына. Вот, пожалуй, и всё.

(Продолжение на 6 стр.)

## Птушкафабрыку пакінуў дырэктар

**Ад пасады дырэктара слонімскай птушкафабрыкі вызвалены Валерый Бурлакоў.**

Па словах начальніка аддзела кадраў упраўлення "Птушкапрам" Валянціна Сапаненкі, Валерый Міхайлавіч напісаў заяву, у якой прасіў "звольніць яго па ўласнаму жаданню ў сувязі са станам здароўя". 29 сакавіка ён быў звольнены. Трэба адзначыць, што Валерый Бурлакоў працаваў на пасадзе дырэктара слонімскай птушкафабрыкі з 1984 года.

На пытанне на конт кандыдатуры новага дырэктара, Валянцін Сапаненка адказаў, што пэўных людзей на гэту пасаду пакуль няма.

**Сяргей ЁРШ**

## У Слоніме дзейнічаюць "гастралёры"

**У апошні час у Слоніме ўчынена 7 кватэрных крадзяжоў. У прыватнасці, на вуліцах Яршова, Тапалёвай, Скарыны і на праспекце Незалежнасці.**

Супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку слонімскага ГРАУС лічаць, што ў горадзе з'явіліся "гастралёры". Дзейнічаюць яны наўздагад, абыходзячы ў першай палове дня кватэры, выбіраючы дзверы, дзе ёсць кнопачныя замкі. Калі ў кватэрах у гэты час ёсць гаспадары, то зладзеі кажуць, што памыліліся. Калі ніхто не адказвае на званок, яны лёгка спраўляюцца з замком, скарыстоўваючы ключ і шыла.

Як правіла, злодзеі абшукваюць усю кватэру, забіраючы золата, валюту, рублі. Апошні крадзеж быў учынены на мінулым тыдні на праспекце Незалежнасці, 22. Міліцыя злодзеяў пакуль не знайшла.

У мэтах папярэджання кватэрных крадзяжоў, супрацоўнікі крымінальнага вышуку рэкамендуюць: не хаваць ключы ў даступных месцах, уставіць у дзверы дадатковы замок, не пакідаць адкрытымі балконныя дзверы і форткі, асабліва на першым паверсе, патрабаваць пасведчанні ў асоб, які прыходзяць для аказання бытавых паслуг, не пакідаць каштоўных рэчаў на лецішчах. У выпадку ж, калі будуць заўважаны падазроныя асобы, работнікі міліцыі рэкамендуюць паведаміць па тэлефонах: 02, 2-44-02, 2-18-02, 2-39-02.

**Сяргей ЁРШ**

ГЛЫБІНКА

# ВЁСКА, якая ПАМІРАЕ


*А цяпер яго павязуць у калгас...*

Фота Віталя ГІЛЯ

(Пачатак на 1 стр.)

Па-суседству з Мікалаем Ярмаком жыве Вольга Пятроўна Толкіна. Яна ведае пра Шулякі і шулякоўцаў усё. Дарэчы, Вользе Пятроўне — семдзесят сем гадоў, але яна яшчэ трымае і даглядае гаспадарку: карову, свіней, бычка, курэй. Якраз у той дзень прыехалі з калгаса купляць да яе бычка. "Усё ж будзе нейкая капейка", — разважае Вольга Пятроўна. А яшчэ гэта працавітая жанчына расказала нам пра тое, што адразу пасля вайны сорак пяць мужчын з Шулякоў пакінулі вёску, бо ім тут не дазвалялі будавацца. Людзі паехалі хто на цаліну, хто на Украіну, а хто на Далёкі Усход.

— Некалі наша вёска была вялікай, — сказала жанчына, — а цяпер яна неперспектыўная. Усяго дзесяць хат. На ўсю вёску шэсць кароў, малако здаём у калгас... Так і жывем, — уздыхнула Вольга Пятроўна.

— А як склаўся ваш асабісты лёс?

— У гады вайны немцы вывезлі мяне ў Германію. Там пазнаёмілася са сваім будучым мужам, які быў ваеннапалонным польскай арміі. Вярнуліся ў Шулякі. У нас нарадзіліся чатыры дачкі. Малодшая жыве ў Магілёве, другая ў Дзяржыне, трэцяя працуе ў Азярніцкай школе, а чацвёртая ў Бабруйску. Муж мой ужо памёр.

— Вольга Пятроўна, а чаму вы з дочкамі не жывяце?

— А навошта мне гэта. Я хачу жыць самастойна. У мяне свой дом, сад, агарод. Я люблю, калі да мяне прыязджаюць дочкі, а таксама сем унукаў, дзве ўнучкі і тры праўнучкі. Як бачыце, я ў Шуляках самая багатая, — усміхнулася жанчына.

Як там не кажы, а прыемна было размаўляць з Вольгай Пятроўнай Толкінай. Адчувалася, што ў душы яна шчаслівая, а што Шулякі паміраюць — ці яе ў гэтым віна? Такі час сёння наступіў, каму, скажыце, патрэбна вёсачка з дзесяццю жыхарамі? Нікому.

Некалькі чалавек у Шуляках купілі сабе хаты з агародамі пад дачы. Але тых дачнікаў вяскоўцы ніколі не бачылі. Пра гэта нам расказала яшчэ адна жыхарка Шулякоў Лідзія Кандрацьеўна Макарчук. Трыццаць шэсць гадоў адпрацавала яна ў калгасе. Адна выгадавала траіх сыноў, бо муж рана трагічна загінуў.

Так і жывуць у вёсцы Шулякі, што на Зэльвеншчыне, яе жыхары. Вяскоўцы ўжо прывыклі да пустых і развaленых хат, да паваленых і гнілых платоў, бруднай вуліцы. Падобных вёсак на Зэльвеншчыне, як і па ўсёй Беларусі, шмат. Людзі хацелі б, каб нехта аднавіў Шулякі і зрабіў іх такімі, якімі яны былі ў 50-60 гадах.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Фота Віталя ГІЛЯ

*Так сёння выглядаюць сядзібы ў Шуляках*

НАВІНЫ

## За квартиру будем платить по полной программе

**Вице-премьер Беларуси Борис Батура считает, что жилищно-коммунальное хозяйство находится в удовлетворительном состоянии.**

Такой вывод можно сделать из его выступления на республиканском семинаре отрасли, который состоялся 30 марта в Гомеле.

Вице-премьер также считает, что финансовое состояние системы ЖКХ заметно улучшится, когда население станет полностью оплачивать коммунальные услуги. Произойдет это, по словам Б.Батуры, в 2002 году.

**БелаПАН**

## Персональная надбавка для врачей

**Совет Министров Беларуси утвердил положение о порядке выдвижения кандидатур из числа медиков для установления персональных надбавок к заработной плате.**

По информации Минздрава сегодня в Беларуси работает примерно 43 тысячи специалистов-врачей. Их должностные оклады колеблются в пределах 15-25 тысяч рублей. Вместе с тем, в стране трудятся десятки выдающихся врачей, которые с помощью новейших методик лечения и уникальных операций спасли жизни многим людям. Особая роль в охране здоровья населения Беларуси принадлежит врачам Минска, где действует 13 из 14 научно-исследовательских институтов и множество ведущих клиник.

Для ста представителей этой своеобразной медицинской элиты предполагается установить персональные надбавки к зарплате в размере 30 тарифных ставок первого разряда, что составляет 135 тысяч рублей (более 140 долларов США по "черному" курсу на сегодняшний день).

Кандидатуры врачей для установления персональных надбавок будут рассмотрены специальной комиссией, утверждены на коллегии Минздрава и до 1 октября направлены в правительство.

**БелаПАН**

# ПРИГЛАШЕНИЕ К ОТМЫВАНИЮ?

**За покупкой валютных ценных бумаг в Беларусь могут устремиться "теневики" из соседних стран.**

Более выгодные, чем у теневого бизнеса, условия отмывания наличной валюты предложены Национальным банком Беларуси. Достаточно сказать, что клиентам, решившим узаконить неправедно нажитые доллары, платить за это не придется, — наоборот, им еще добавят "зеленых" из расчета 6% годовых.

Этого обстоятельства не заметили средства массовой информации, поспешившие прокомментировать выпуск Нацбанком так называемых облигаций, номинированных в свободно конвертируемой валюте для физических лиц, а чуть позднее — ценных бумаг первого валютного выигрышного займа Министерства финансов. И те, и другие предлагаются к продаже уже в марте.

Их привлекательность для "теневиков" объясняется тем, что государство, по сути, закрывает глаза на источники происхождения валюты, на которую приобретаются эти ценные бумаги. Это подтверждено президентским декретом №6. В нем говорится, что при совершении операций с облигациями не требуется предъявления документов, удостоверяющих личность. К тому же установлено, что физические лица не представляют деклараций об источниках денежных средств при совершении сделок с новыми ценными бумагами.

Схема отмывания валюты согласно "ноу-хау" Нацбанка может быть весьма простой. Положение об облигациях предусматривает возможность выплаты их стоимости при погашении путем перечисления на текущий счет в банке. При этом, по словам одного из сотрудников Нацбанка, будет делаться стандартная запись о назначении средств: "доходы от облигаций, номинированных в СКВ для физических лиц". Эту формулировку можно будет вносить в декларацию о доходах вполне безболезненно, поскольку, согласно положению, эти деньги не облагаются подоходным налогом. И в дальнейшем можно вполне легально распоряжаться "отмытой" валютой.

Несколько иные условия предложены Минфином, хотя и здесь при покупке облигаций не потребуется предъявлять паспорт, "навар" с них не будет облагаться налогом и не потребует декларирования. Но сам доход (на 2% выше, чем предложено Нацбанком) смогут получить не все, а только выигравшие. И хотя это обстоятельство делает их менее привлекательными, вряд ли оно остановит тех, кому нужно легализировать "горячие" деньги.

Финансисты полагают, что в Беларусь могут устремиться "теневики" из соседних стран, особенно из России, которые и скупят основную часть валютных ценных бумаг.

Белорусские власти пошли на это, испытывая серьезный голод в смысле валюты, необходимой для оплаты сырья, материалов и энергоносителей из России, а также лекарственных средств из европейских стран. Если эксперимент с облигациями удастся, то Нацбанк уже в этом году готов выпустить облигаций на 10 млн. USD. На такую же сумму запускает бумаги и Минфин.

Первые облигации будут выпущены номиналом в 100 USD. Их бланки, по заключению экспертов, имеют достаточное количество степеней защиты от подделки. Планируется продавать ценные бумаги через главное управление Нацбанка и его отделения. Погашение предусмотрено через год. После окончания срока обращения облигаций владельцы смогут предъявить их для погашения в течение трех лет.

**Владимир СВЕРКУНОВ**

## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

*Цены в руб. за 1 кг.*

| | 05.03.00 | 02.04.00 |
|---|---|---|
| лимоны | 1000 | 1000 |
| апельсины | 700 | 700 |
| морковь | 100 | 200 |
| свинина | 1000-2000 | 1000-1800 |
| сало | 1200 | 1200 |
| молоко | 100 | 100 |
| сметана | 500 | 500 |
| масло сл. | 1400 | 1400 |
| масло растит. | 600-700 | 600 |
| творог | 500 | 600 |
| яйца (1 дес.) | 400-450 | 400 |
| картофель | 90-100 | 90 |
| бананы | 850 | 800 |
| мандарины | 1000 | 1000 |
| яблоки свежие | 420-450 | 400 |
| лук | 200 | 180 |
| телятина | 1000-2000 | 1000-1800 |
| капуста | 70-80 | 90 |
| мед натур. | - | 3000 |
| свекла | - | 100 |
| ячмень | - | 120 |
| говядина | - | 900-1700 |
| пшеница | - | 140 |

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі .........2-14-39
.........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы .........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 4 красавіка 2000г. Час падпісання 16:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 8300 экз.
Заказ №1305

## ДЗЕНЬ АДКРЫТАГА ПІСЬМА

**Мастоўскі райвыканкам і Гродзенскае тэлерадыёаб'яднанне правялі дзень адкрытага пісьма.**

Па задумцы арганізатараў, кіраўнікі горада і раёна, а таксама начальнікі розных арганізацый павінны былі даць адказы на пытанні мастаўчан. На сустрэчу з вобласці прыехалі Уладзімір Амелька — начальнік упраўлення інфармацыі аблвыканкама, Дзмітрый Волчак — кіраўнік Гродзенскага тэлебачання і іншыя. Праўда, на сустрэчы простых рабочых было не вельмі шмат. Старшыня райвыканкама Аляксандр Кісялёў распавёў прысутным пра дасягненні раёна. Дзмітрый Волчак пазнаёміў іх з працай Гродзенскага тэлебачання. Асноўная доля пытанняў прыйшлася на камунальную службу раёна. Справаздачу па гэтай галіне гарадской гаспадаркі трымала намеснік старшыні райвыканкама Алена Кір'янава, але прысутныя нічога новага не пачулі. Тым не менш патрабавальныя запыты і справядлівыя заўвагі сталі нерваваць Алену Ціма-феенну, і ёй на дапамогу прыйшлі госці; якія вялі сустрэчу. Надалей яны ўмела кіравалі публікай і не дапускалі, каб прамоўцы бянтэжылі начальства пытаннямі. Дзеля таго, каб высветліць рэйтынг мясцовага тэлебачання ў прысутных, яго кіраўнік Дзмітрый Волчак папрасіў іх шчыра адказаць, ці слухаюць яны абласное радыё і ці глядзяць гродзенскае тэлебачанне? Зала дружна і зладжана два разы прамовіла "не". Вынікі працы падвёў Уладзімір Амелька. Ён адзначыў, што гэта была першая сустрэча афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі з народам, і яны надалей будуць практыкаваць падобную форму працы з людзьмі ў іншых раённых цэнтрах.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Спявалі з аркестрам

**У час веснавых школьных канікулаў у Мінску ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся традыцыйны рэспубліканскі фестываль дзіцячай эстраднай песні "Спяваем з аркестрам".**

У ім прынялі ўдзел юныя спевакі ад 5 да 13 гадоў. Яны выконвалі выключна беларускамоўныя творы ў суправаджэнні Дзяржаўнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

З аркестрам славутага маэстра спявала і слонімскае трыо "Маленькая банда" у складзе Максіма Маруціка, Кірыла Відусава і Максіма Смоліча (СШ №8). Салісты выканалі песню "Белы параход". Трыо кіруе музычны педагог Лілія Маруцік.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### ЗДАРЭННІ

## Два пажары за адзін дзень

**26 сакавіка ў жыхара вёскі Пляжын Зэльвенскага раёна Івана Біча загарэўся хлеў.**

Пажар узнік ад дзіцячага свавольства. Праўнук гаспадара Дзяніс запаліў стог саломы, які знаходзіўся каля хлява. Салома згарэла, абгарэлі і сцены пабудовы.

У гэты самы дзень гарэў хлеў і ў жыхара вёскі Князева Зэльвенскага раёна Валерыя Здановіча.

Прычынай пажару стала замыканне электраправодкі. Згарэў дах хлява.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Абакраў па-суседску

**Днямі супрацоўнікі Слонімскай міліцыі затрымалі 20-гадовага жыхара вёскі Вараб'евічы.**

Ён падазраецца ў тым, што ўкраў з гаража аднавяскоўца 200 літраў саляркі і аўтамабільны генератар.

**Б.П.**

## Знайшлі і знішчылі

**Падчас земляных работ непадалёку ад фермы ў вёсцы Скрундзі Дзятлаўскага раёна былі знойдзены артылерыйскі снарад і мінамётная міна ваенных часоў.**

Яны больш як паўстагоддзя праляжалі ў зямлі. Сапёры, што прыехалі на месца, абясшкодзілі небяспечную знаходку.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Государство взяло под охрану валуны

**Десять геологических реликтов Гродненской области объявлены памятниками природы республиканского значения.**

Инициаторами этой акции стали Институт геологии Национальной академии наук совместно с Минприроды, а также Мостов - ский и Слонимский райисполкомы.

Как известно, главной особенностью рельефа этого региона является распространенность антропогеновых (четвертичных) отложений, которые образовались во время мощных материковых оледенений в течение последних 100 тысяч лет.

Памятниками природы объявлены четыре валуна весом от 25 до 52 тонн в окрестностях деревень Доргоглявы, Смовжи и Кракотка; три геологических обнажения пород (опорные разрезы отложений ледникового и послеледникового периода) у деревень Дубно, Пески и хутора Княжеводцы, а также уникальная гора Колпак — холм идеальной конусообразной формы, расположенный в окрестностях деревни Поречье.

По данным Минприроды, в Беларуси насчитывается более 300 памятников природы республиканского и более 400 местного значения, охраняемых государством.

**Марат ГОРЕВОЙ**

## У райвыканкам па кватэры

**З пачатку гэтага года ў Мастоўскі райвыканкам звярнуліся 32 гараджаніна з просьбай атрымаць жыллё.**

У мінулым годзе было здадзена 48 кватэр, што складае толькі 7 працэнтаў ад ліку тых, хто стаіць у чарзе на жыллё.

## І труну хацелі адабраць

**У калгасе імя Чапаева Мастоўскага раёна на праўленне гаспадаркі было вынесена пытанне: нябожчыкам, былым калгаснікам, не рабіць бясплатна труны, што звычайна практыкавалася на працягу больш дзесяці гадоў.**

Гэта было апошнім відам дапамогі людзям, якія ў свой час працавалі ў калгасе. Большасцю галасоў гэтая прапанова не была прынята.

**Антон МАКЕЙ**

### СЛОНІМ

# Вуліца РУЖАНСКАЯ

"Афрыканскі след" прысутнічае яшчэ і сёння. У кнізе вядомага беларускага даследчыка Вячкі Целеша "Гарады Беларусі на старых паштоўках", выдадзенай у Мінску ў 1998 годзе, пад старой слонімскай паштоўкай чытаем: "Ружанская вуліца, цяпер Патрыса Лумумбы"...

**Гэта слонімская вуліца адна з нямногіх, якой на пачатку 1990-х гадоў была вернута спрадвечная назва — Ружанская. Менавіта так яна называлася ў старажытнасці, пры царскай і польскай уладах, а таксама пры савецкай. Аж пакуль дзесьці ў 1970-х гадах ёй не далі імя камуніста з Афрыкі Патрыса Лумумбы...**



*Ружанская вуліца, 2000 г.*

### Электралічыльнікі былі яшчэ да вайны

Сёння на Ружанскай вуліцы ўжо амаль няма людзей, якія помняць даваенны час. Адной са старажылак, Веры Іванаўне Занямонскай, 80 гадоў. Яна памятае кошты тавараў на даваенным слонімскім рынку ды шмат чаго іншага.

Па яе словах, калісьці на Ружанскай вуліцы ў асноўным жылі яўрэі. Вера Занямонская прыпамінае прозвішча яўрэя Арчыка, які трымаў кузню ў двухпавярховым доме насупраць могілак. На вуліцы было шмат "крамак" (менавіта так называліся шматлікія прыватныя магазіны). У іх прадавалі муку, крупы, газу, соль, запалкі. Гандлявалі і гарэлкай. Галоўнымі пакупнікамі гэтых тавараў былі вяскоўцы, якія ехалі ў горад па Ружанскай на слонімскі рынак альбо па іншых справах. На рынку можна было купіць літаральна ўсё. Пуд жыта каштаваў 2 злотыя, а кілаграм цукру — 1 злоты. За кілаграм пшанічнай мукі прасілі 80 грошаў.

— Вуліца наша была брукаваная, — успамінае Вера Іванаўна. — Былі і тратуары, складзеныя з пліт, на якіх стаяла марка фірмы "Езерскага". Яшчэ пры польскай уладзе пачаў працаваць водаправод. Вада ішла з крыніц, што на Панасоўцы. У яўрэяў вада была падведзена ў хаты. Ужо пасля вайны некаторыя людзі, што пасяліліся на пажарышчах на Ружанскай вуліцы, выкарыстоўвалі стары водаправод...

*Вера Занямонская*

У той час была на вуліцы і электрычнасць. І не толькі ў дамах, але асвятлялася і сама вуліца. У хатах гараджан ужо тады стаялі электралічыльнікі.

— У яўрэяў былі свае звычаі, — гаворыць Вера Занямонская. — На свята або ў суботу яны нічога не маглі самі рабіць, нават печ прапаліць. Таму яны наймалі беларусаў ці палякаў, і тыя выконвалі хатнія работы...

Падчас нямецкай акупацыі фашысты знішчылі амаль усіх слонімскіх яўрэяў, спалілі частку Ружанскай вуліцы. У першыя пасляваенныя гады на папялішчы недалёка ад сучаснага рэстарана "Шчара" быў невялікі рынак. Вячаслаў Фёдаравіч Сцяпура ўспамінае, што там стаяла некалькі прылаўкаў, збітых з дошак. Там жа можна было ўбачыць інвалідаў без ног, якія зараблялі грошы...

У даваенны час каля Ружанскіх могілак знаходзіўся прыватны невялікі цагляны завод, які згарэў у час вайны. А насупраць могілак стаяў дом састарэлых, у якім жыло каля 20 старых. Будынак той таксама згарэў падчас нямецкай акупацыі.




*Паштоўка пачатку XX ст.*

### Пісьменнік ці баец?

Пакуль невядома, каму са слонімскіх чыноўнікаў прыйшла ў галаву думка — увекавечыць імя афрыканскага змагара супраць імперыялістычнага прыгнёту Патрыса Лумумбы ў нашым горадзе. Адзін мясцовы жыхар успамінае, што ў тыя часы быў старшы вуліцы па прозвішчу Казак. Ён, як камуніст, хадзіў па мясцовых жыхарах і агітаваў за перайменаванне вуліцы. Казаў, што "вось быў такі баец у Афрыцы". Людзі ж аднесліся да гэтага абыякава. Як, дарэчы, і да вяртання спрадвечнай назвы вуліцы.

Вера Іванаўна Занямонская прыгадала анекдатычны выпадак. Калісьці, у савецкія часы, прыехалі ў Слонім палякі. Ім была патрэбна Ружанская вуліца. Шукалі, шукалі, але знайсці не маглі. Ды ўсё здзіўляліся, хто гэта такі, Лумумба?.. Вера Іванаўна і сёння дакладна не ведае, хто ён такі быў. Мяркуе, што нейкі пісьменнік ці дзеяч...



*Валянціна Карэйва*

### Адна з лепшых вуліц горада

У гэтым упэўнены жыхары Ружанскай вуліцы.

— Добрая наша вуліца, спакойная, чыстая, — гавораць Валянціна і Іван Карэйвы. — І людзі тут добрыя жывуць.

— Перамянілася наша вуліца, — гаворыць Іван Канстанцінавіч Занямонскі, капітан першага рангу ў адстаўцы. — Цяпер яна адна з лепшых вуліц горада. Чысценькая — яе рэгулярна прыбіраюць. Пасля выхаду ў адстаўку жыву тут шосты год. Займаюся агародам, гаспадаркай. Працы хапае.

Як мы змаглі пераканацца, цяпер на Ружанскай вуліцы жывуць у асноўным людзі сярэдняга веку. Старых засталося мала. Вера Занямонская гаворыць, што пенсія малая — 12 мільёнаў рублёў. За газ, ваду заплаці... А трэба ж і есці... Добра, што агародзік мае.

Дарэчы, да вайны жыхары Ружанскай вуліцы агародаў не садзілі. І не толькі таму, што было ў іх мала зямлі, проста ў гэтым не было патрэбы.

Калісьці Ружанская вуліца была на ўскрайку горада, заканчвалася каля яўрэйскіх могілак. Далей ішоў тракт, абапал якога раслі вербы. Цяпер там Брэсцкая вуліца і новыя мікрараёны.

**Сяргей ЁРШ,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**

# Белорусские метрики ВКЛ

**В столичном издательстве "Атенеум" – впервые в республике после 1928 года – вышло в свет современное белорусское издание Метрики Великого княжества Литовского.**

Эта книга является первой в Беларуси публикацией в рамках реализации крупного международного проекта, предусматривающего исследование и издание Метрики ВКЛ.

Напомним, что в рамках этого проекта в Литве выпущено 12 книг Метрики, в Польше – две, на Украине – одна. Отечественное издание, подготовленное учеными Института истории Национальной академии наук историком Валерием Менжинским и филологом Владимиром Свяжинским, представляет отпечатанный тиражом в 500 экземпляров 28-й том Метрики. В нем на языке оригинала – старобелорусском – публикуются документы, отражающие различные аспекты социально-экономической и культурной жизни средневековых городов ВКЛ – Вильни, Менска, Полоцка, Орши, Мстиславля и Киева в период 1522-1552 гг.. Книга обеспечена детальным введением на белорусском, русском, английском и литовском языках.

По словам ученого, к началу лета планируется выпуск электронной версии книги на компакт-диске, а с осени – издание альманаха "Метрыкіяна", в котором будут представлены материалы исследований Метрики ВКЛ.

Начало издания этого колоссального по объему сборника документов, должно утвердить правопреемственность Беларуси на этот самый богатый комплекс источников по феодальному периоду истории страны, материалы которого, как известно, в основном находятся в архивах России.

**Справка:** Метрика (от латинского matrikula - канцелярская книга) Великого княжества Литовского является 662-томным сбором специфических материалов (тетрадей и книг) канцелярии ВКЛ XV-XVIII веков с копиями документов, которые выдавались от имени великого князя (господаря), Рады ВКЛ, сеймов и подлежат вечному хранению. В состав Метрики также входят некоторые важные материалы – переводы дипломатических документов, реестры актов, инвентари Метрики и другие образцы делопроизводства ВКЛ.

**БелаПАН**

## Одни долги

**С начала года в Беларуси наблюдается существенный рост задолженности по заработной плате.**

Так, по состоянию на 29 февраля долги предприятий и организаций перед работниками составили 10,5 миллиарда рублей, увеличившись за месяц в 1,5 раза.

При этом увеличение задолженности произошло во всех отраслях белорусской экономики. 60 процентов ее приходится на сельскохозяйственные предприятия. Своевременно не была выплачена зарплата 364 тысячам работников, что составляет 59 процентов занятых в сельхозпроизводстве. На промышленных предприятиях задолженность по заработной плате составила 2 миллиарда рублей, или 19 процентов от всей задолженности по стране.

**БелаПАН**

## Чужого нам не надо, но и свое не отдадим

**Министерство по управлению государственным имуществом и приватизации подтвердило права Беларуси на ряд объектов, расположенных на украинской территории.**

Речь идет о примерно десяти объектах, прежде всего здравницах и базах отдыха на Черноморском побережье Крыма. В их числе – один из наиболее респектабельных отечественных санаториев "Белоруссия", расположенный в городе Мисхор.

По сообщению официальных источников, в настоящее время пакет документов, необходимых для решения вопроса собственности, находится на рассмотрении Фонда госимущества Украины.

**Наталья КУЛАГИНА**

## Еще есть время, чтобы заплатить налоги

**На 1 марта 2000 года в налоговые органы Беларуси подано около 205 тысяч деклараций о совокупном годовом доходе.**

Из них почти 84 тысячи предъявлено физическими лицами, не являющимися индивидуальными предпринимателями.

Как известно, представить декларации о совокупном годовом доходе в налоговые инспекции граждане республики должны были до 1 марта, а уплатить подоходный налог можно до 15 мая.

После этого срока станут известны окончательные сведения о неплательщиках. К ним будут предъявляться административные и финансовые санкции. Так, в случае несвоевременной подачи декларации гражданин привлекается к административной ответственности с наложением штрафа в размере от 10 до 50 минимальных заработных плат, предусмотрены также другие финансовые санкции и начисление пени за каждый день просрочки уплаты налога.

## Супер-милиционер

**Новую систему оценки работы милиционеров собирается ввести в Могилевской области начальник управления внутренних дел Святослав Курель. Высшей степенью такой оценки станет присвоение специального звания "супермилиционер".**

По замыслу Святослава Куреля, каждый сотрудник милиции раз в пять лет должен перемещаться по кадровой лестнице соответственно своим способностям. Почетное звание "супермилиционер" будет присваиваться наиболее подготовленным и универсальным сотрудникам. Качество работы будет в первую очередь влиять на размер заработной платы.

По мнению Святослава Куреля, эти нововведения помогут поднять общий профессиональный уровень местной милиции, а также избежать многих конфликтных ситуаций при исполнении обязанностей.

**БелаПАН**

# ВСПОМНИЛИ защитников Отечества



Фота IREX/ProMedia

*Минск, 2 апреля 2000 года*

**2 апреля, в День единения народов Беларуси и России, в Минске прошла акция памяти – молебен, посвященный защитникам белорусской независимости. Ее инициатором выступила Белорусская социал-демократическая партия (Народная Грамада).**

В 12 часов возле памятника Янки Купалы, в одноименном сквере столицы, собрались около пятисот человек, которые держали в руках свечи, цветы, несколько бело-красно-белых флагов и портреты людей, отдавших свои жизни за независимость Беларуси (среди других был и портрет слонимчанина Владимира Ксеневича, активного участника антибольшевистской борьбы в начале 1920-х годов). Возложив к памятнику великого белорусского поэта Янки Купалы венок и цветы, участники акции до начала поминальной службы пели национальные песни. Затем перед ними выступил лидер БСДП (НГ) Николай Статкевич, напомнивший о сотнях тысяч людей, которые отдали свои жизни в борьбе за независимость Беларуси. Он также рассказал о событиях 1996 года, когда 2 апреля, в день подписания российско-белорусского союзного договора, на улицы Минска в знак протеста вышли десятки тысяч жителей города. Они продемонстрировали всему миру свое желание жить в независимом и суверенном государстве.

После выступления Н.Статкевича состоялся молебен в память борцов за независимость, который отслужили священники Белорусской православной автокефальной церкви Иван Спасюк и Леонид Акалович. В беседе с журналистами Николай Статкевич отметил: акция прошла именно так, как задумывалась. Несмотря на то, что еще свежи воспоминания о событиях 25 марта, когда в День Воли состоялся беспрецедентный по жестокости разгон мирной демонстрации в Минске, на сегодняшнюю акцию пришло достаточно много людей. Мероприятие прошло без эксцессов. Однако после ее проведения сотрудники милиции задержали одного ее участника - жителя города Горки Могилевской области. Есть сведения, что вскоре после задержания он был отпущен. По сведениям некоторых журналистов, за ходом акции оппозиции наблюдал министр внутренних дел страны Юрий Сиваков, находясь в гражданской одежде, в окружении высокопоставленных офицеров МВД.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

# "ФОРД" только под заказ

**В 1999 году завод "Форд Юнион", расположенный под Минском, произвел 440 автомобилей. Это в четыре раза меньше по сравнению с предыдущим годом, когда было произведено 1840 автомашин. Такие данные сообщила менеджер по связям с общественностью российского отделения "Форд Мотор" Оксана Хартонюк.**



По ее словам, столь незначительные объемы производства объясняются резким сокращением спроса на автомобили в России и связаны с последствиями финансового кризиса. В частности, если в 1998 году "Форд" реализовал на российском рынке 5071 автомобиль (причем свыше 4 тысяч в первом полугодии), то в 1999 – всего 1075 машин.

В 2000 году белорусский завод возобновил сборку автомобилей после рождественских праздников и теперь осуществляет их производство только по заказам дилеров, которых у "Форда" в России и Беларуси 28. "Конечно, хотелось бы производить больше, но нет смысла, потому что не идут продажи. Сейчас мы всеми силами стараемся увеличивать объемы продаж на российском рынке и таким образом, естественно, увеличивать количество заказов белорусского завода", – заявила О.Хартонюк.

Стоимость производимого под Минском микроавтобуса "Форд-Транзит" составляет почти 18 тысяч долларов США, и именно эта модель пользуется в России наибольшим спросом. Стоимость "белорусского" "Эскорта" составляет немногим более 13 тысяч долларов США.

**Алексей ОРЕШКО**

## Увеличится ли уровень социальной поддержки населения?

**Совет Министров Беларуси одобрил Комплексную систему мер по социальной защите населения на 2000-2005 годы.**

Действующая ныне в Беларуси система социальной защиты предусматривает различного рода выплаты, пособия и трансферты, преимущественно нетрудоспособным и малообеспеченным гражданам. Экономические затраты на такие социальные программы составляют около 14 процентов валового внутреннего продукта.

Вместе с тем, уровень социальной поддержки остается чрезвычайно низким. Так, средний размер назначенной месячной пенсии в феврале 2000 года составлял около 19 долларов США (по реальному обменному курсу), пособия по безработице – 3,3 доллара. Доля населения с располагаемым доходом на уровне и ниже прожиточного минимума в 1999 году составляла около 50 процентов.

## Государство дает колхозам семена

**Совет Министров Беларуси постановил выделить сельскохозяйственным предприятиям на весенний сев 9.308 тонн сортовых семян яровых зерновых и зернобобовых культур.**

Семена выделяются из государственных ресурсов "в порядке продажи (обмена)... для планового сортообновления и сортосмены". Гродненской области будет передано 1000 тонн семян.

Рассчитываться за сортовые семена сельскохозяйственные предприятия могут тремя способами:

– заплатить за семена по ценам, определенным "исходя из стоимости их приобретения и услуг предприятий хлебопродуктов";

– вернуть зерном нового урожая в соотношении 1 к 1,3 – 1,5;

– обменять на семена более низких репродукций или на зерно для кормовых целей.

**БелаПАН**

# БЕЛАРУС НА ЧЭЧЭНСКАЙ ВАЙНЕ

**Мы пазнаёміліся ў цягніку. 35-гадовы беларус, назавем яго Яўген, вяртаўся з чэчэнскай вайны ў сваю родную вёску, у адзін з суседніх са Слонімскім раёнаў. На Беларусі ён не быў восем гадоў...**

*Чэчня, вясна 2000 года*

— Увесь гэты час я служыў па кантракце ў памежных войсках у Расіі, — расказвае Яўген. — Цяпер вяртаюся з Чэчні, дзе давялося паваяваць... Вайна там горшая за афганскую. І скончыцца яна не хутка. Мусіць, яшчэ гадоў дзесяць расійскія войскі там будуць ваяваць. Я ж вырашыў звольніцца, бо тры разы ўжо быў паранены.

Па расійскіх каналах тэлебачання пра вайну гавораць не так, як ёсць на самай справе. І не ведаю, каму гэта трэба? Гавораць, што загінула расійскіх вайскоўцаў толькі дзве тысячы, але мне здаецца, што значна больш. Іншы раз ідзеш у атаку і трапляеш на целы сваіх жа, параненых і забітых, хлопцаў. Бывае, што ўсё поле імі завалена...

Іншы раз, здараецца, артылерыя альбо верталёты ў гарах страляюць па сваіх. Там, асабліва ў гарах, цяжка разабрацца, дзе рускія, а дзе чэчэнцы. Даюць каманду нанесці ўдар па такому квадрату, і яны б'юць. А сітуацыя ўжо памянялася, і там знаходзіліся расійскія вайскоўцы... Дайшло да таго, што, убачыўшы сваю "вяртушку", мы хаваліся за камяні, баючыся, што верталёты нас абстраляюць.

Я ваяваў у складзе разведгрупы, у якую ўваходзілі 3 чалавекі. Давялося пераканацца, што дэсантнікі вельмі слаба падрыхтаваны да вайны. Часта ідзе іх група, наперадзе хлопец з мінашукальнікам, але ён... не навучаны "пачуць" тую міну. У выніку, падрываюцца, толькі костачкі ляцяць...

У адрозненне ад дэсантнікаў, спецназаўцы падрыхтаваны значна лепш. Калі ідзе "зачыстка" вёскі, яны заўсёды першыя туды заходзяць. Мы — за імі. Таму галоўныя "трафеі" бяруць яны, а мы ўжо пасля, што знойдзем... Звычайна, перад атакай п'ём спірт — так не страшна. Як правіла, пасля спецназа рэдка калі што ў вёсцы застаецца жывое. Яны нікога не шкадуюць. Шмат мірных жыхароў гіне. Іншы раз даюць каманду, і танк ва ўпор расстрэльвае 9-павярховы дом, а потым высвятляецца, што там баевікоў не было, а хаваліся мірныя жыхары.

Аднойчы падчас бою дайшло да рукапашнай. Лепш гэтага не бачыць. У палон я асабіста нікога не браў. Параненых чэчэнцаў дабівалі на месцы. У тым баі налічылі 15 іх трупаў.

Ведаеце, многіх генералаў ненавіджу. Яны ж носа не паказваюць на перадавую, сядзяць у тыле ды патрабуюць, каб мы ім абсталёўвалі бяспечныя "штабы". І вельмі крыўдна чуць, як яны гавораць па тэлебачанні пра вайну...

Чэчэнцы вельмі добра падрыхтаваны, умеюць ваяваць, а галоўнае — ведаюць мясцовасць. На іх баку ваюе шмат наёмнікаў. Былі выпадкі, калі расійскія вайскоўцы пераходзілі на іх бок. Кажуць, што за грошы. А пасля чэчэнцы, даведаўшыся ад іх пра слабыя месцы нашай абароны, наносілі нам адчувальныя ўдары...

Мог ехаць у Беларусь у форме, але вырашыў, што ў грамадзянскім будзе прасцей. У Маскве некалькі разоў спынялі і правяралі патрулі. Маці, напэўна, чакае, кінецца на шыю... Купіў вось пляменніцам, якіх яшчэ не бачыў, падарункі.

Мусіць, тыдзень буду спаць. Бо які сон у Чэчні? Там толькі дрэмлеш, у пастаянным напружанні, кожную хвіліну чакаючы нападу... Пасля са сваімі сябрамі адзначу свой прыезд. Думаю, што яшчэ паслужу ў беларускім войску...

*Расійскія вайскоўцы на баявой пазіцыі*

**Запісаў Сяргей ЁРШ**

## ГАИ бьет презервативом

**Белорусские гаишники начали отлавливать нарушителей приказа о правильном комплектовании аптечки в машине.**

Согласно приказа, в аптечке автомобиля должно находиться как минимум три презерватива, пригодных для использования. Уже известны случаи, когда сотрудники дорожно-постовой службы останавливали автолюбителей, требовали предъявить содержимое аптечки и, не найдя в ней презервативов либо не досчитавшись одного-двух, угрожали наказанием. Редакция газеты "НАША СВАБОДА" решила разобраться в "резиновом деле" по существу.

По моим данным, чаще претензии подобного рода гаишники предъявляют водителям женского пола, что можно рассматривать и как элементарное приставание. В таком случае результат зависит от многих факторов, в том числе темперамента. Что же о юридической составляющей, то она, как говорят юристы, ничтожна, ибо штраф за некомплектность аптечки не предусмотрен. Так мне заявили в пресс-центре ГАИ республики. Заметив, что это совсем не означает отсутствия всякой ответственности автолюбителя за содержимое своей "коробочки с красным крестом". Просто экзамен на комплектность аптечки владелец машины должен пройти во время техосмотра, иначе не получит права на ней ездить.

"Безусловно, автоинспектор имеет право проверить вашу аптечку и указать на отсутствие какого-то лекарства или предмета в ней, в том числе презерватива, что вы должны исправить", — сказали в пресс-центре ГАИ, но при этом не смогли разъяснить, чем вызвано присутствие в аптечке резинового изделия, которое используют при половом контакте.

"Объясните, чем презерватив может помочь при оказании первой помощи потерпевшему или даже в том случае, если я плохо себя почувствовал за рулём?"— упорствовал я в своих вопросах к гаишникам. Увы, вопрос остался без ответа. Мои собеседники словно зациклились на вопросах секса, потому что в ответ говорили исключительно про усиление либидо во время долгих путешествий и про СПИД, который угрожает каждому проезжающему по шоссейным и всем прочим дорогам Беларуси.

В ГАИ меня заверили, что даже старушка-Европа не считает зазорным держать презервативы в автоаптечках. А вообще-то, сказали, ГАИ тут ни при чём, претензии надо предъявлять министерству здравоохранения, которое приняло злополучный приказ "О порядке комплектации аптечки первой медицинской помощи", а ГАИ, мол, только его выполняет.

**Алесь ПАВЛОВИЧ**

УСПАМІНЫ

# МІХАІЛ ГАРБАЧОЎ на Слонімшчыне

У канцы жніўня 1981 года, позним нядзельным вечарам, да мяне дамоў прыехалі першы сакратар слонімскага гаркама кампартыі Казімір Лушнеўскі і начальнік сельгасупраўлення Уладзімір Чышчэня. Адразу з парога яны паведамілі, што праз два дні ў "Рассвет" прыедзе член палітбюро і сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў разам з першым сакратаром ЦК КПБ Ціханам Кісялёвым і сакратаром ЦК па сельскай гаспадарцы Мікалем Дземянцеем. За што нам такі гонар — госці не растлумачылі, сказалі толькі, што пытанне ўзгоднена з Мінскам і Гроднам.

У праграме візіту М.Гарбачова на Беларусь, акрамя іншага, прадугледжвалася і знаёмства з двума калгасамі — перадавым і тыповым, сярэднім. Кіраўнікі рэспублікі вырашылі, што перадавым павінен быць калгас "Аснежынскі" Пінскага раёна, а наш "Рассвет" — тыповым.

Слонімскія начальнікі прапанавалі мне за ноч спланаваць сцэнарый прыёму высокіх гасцей. У гэты сцэнарый уваходзіла абавязковае кароткае (8-10 мінут) выступленне на нарадзе, якую Міхаіл Сяргеевіч правядзе непасрэдна ў полі з кіраўніцтвам калгаса і першымі сакратарамі райкамаў партыі Гродзенскай вобласці. Месца прызямлення верталёта ўжо было вызначана на карце — поле другога вытворчага ўчастка на адлегласці аднаго кіламетра ад шашы Слонім — Ружаны. Мне давялі да ведама, што кіраўнікі раёна прыедуць у калгас раніцай у панядзелак (г.зн. заўтра) і будуць памагаць нам рыхтавацца да сустрэчы, а ў аўторак раніцай прыедзе першы сакратар абкама партыі Леанід Кляцкоў, а таксама ўсе сакратары райкамаў партыі вобласці.

Тэзісы свайго выступлення я напісаў адразу ў той жа вечар. Раніцай у панядзелак раённае начальства азнаёмілася з тэкстам. Кожны даваў свае заўвагі, раіў, што трэба змяніць. Але перапісваць тэкст я не меў часу. Таму гэты самы чарнавік паказаў для азнаямлення і першаму сакратару абкама. Леанід Герасімавіч прачытаў і сказаў: "Усё правільна. Так і рубай."

А падрыхтоўка тым часам працягвалася. Разам з "шэфамі" са Слоніма калгаснікі правялі дадатковую праполку пасеваў у радыусе двух кіламетраў ад вызначанага месца прызямлення верталёта з высокімі гасцямі. На ўсякі выпадак навялі парадак на ферме, падмялі вясковыя вуліцы. Вайскоўцы са Слоніма прывезлі і ўстанавілі дзве палаткі: адну для правядзення нарады, другую для палявой сталоўкі, калі ў гасцей будзе жаданне перакусіць. Мінёры праверылі пляцоўку на прадмет наяўнасці мін. Райспажыўсаюз завёз неабходныя прадукты і напіткі. Не абышлося таксама без прысутнасці міліцыі, КДБ і пажарнікаў.

Верталёт прызямліўся каля 16 гадзін. Першымі гасцей сустракалі з караваем Анатоль Цярэнін (тады дырэктар РДК) і дзяўчаты ў беларускім нацыянальным адзенні. Цярэнін прывітаў гасцей па-беларуску. Гарбачоў падзякаваў і спытаў: "Кем работаеш?" На што Анатолій Мікалаевіч адказаў: "Сельскім культработнікам." "Молодец, ты на своём месте," - пахваліў Гарбачоў.

Затым госці павіталіся з кожным з нас паасобку.

Не трацячы часу, мы з гасцямі пайшлі на бульбянoе поле. Па дарозе Міхаіл Сяргеевіч распытваў у мяне пра стан эканомікі калгаса, спецыялізацыю, колькасць і прадукцыйнасць жывёлы, аб ураджайнасці і рэнтабельнасці вытворчасці і іншае. А потым спытаў, якая ў мяне адукацыя і колькі працую старшынёй.

Прыйшлі на бульбяное поле. У тым годзе бульба не вызначалася высокім ураджаем. Але поле было дагледжаным, без пустазелля. Яшчэ да прыбыцця гасцей мы выкапалі некалькі кустоў бульбы і паклалі іх на краю поля. Там жа пакінулі і рыдлёўку. Міхаіл Сяргеевіч загадаў мне выкапаць яшчэ некалькі кустоў, а затым, узяўшы ў мяне рыдлёўку, сам выкапаў некалькі раслін з другой баразны. Ён вельмі хутка падлічыў, што на гектары гэтага поля павінна быць не менш 35-37 тысяч кустоў, вага клубняў з аднаго куста, у сярэднім, каля 400 грамаў. Такім чынам сярэдні ўраджай павінен быць 140-145 цэнтнераў з гектара. Міхаіл Сяргеевіч папрасіў мяне напісаць яму пасля ўборкі, якую ўраджайнасць мы атрымалі з гэтага поля. Трэба сказаць, што Гарбачоў не памыліўся — фактычная ўраджайнасць склала 141 ц/га.

Пасля дэлегацыя паглядзела разасланы на вылежку лён, люцэрну і падрыхтоўку поля пад пасеў азімых, і ўсе вярнуліся ў палатку, дзе пачалася нарада. Гарбачоў папрасіў першага сакратара абкама партыі Кляцкова расказаць пра стан сельгасвытворчасці ў Гродзенскай вобласці. Па ходу выступлення ён задаваў шмат пытанняў і быў задаволены адказамі. На пытанне Гарбачова, як аднаўляюцца кадры кіраўнікоў гаспадарак, Кляцкоў сказаў, колькі ў мінулым годзе змянілася кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў і назваў матывацыі замены. Пачуўшы, што чатыры кіраўнікі гаспадарак пайшлі на павышэнне ў савецкія і партыйныя органы, Міхаіл Сяргеевіч не мог з гэтым пагадзіцца.

— Калі старшыня калгаса добры кіраўнік і арганізатар, яго нельга забіраць з калгаса. У яго ганаровая пасада, бязмежныя магчымасці далей творча развіваць гаспадарку. А гарадскія кабінеты не застануцца без начальнікаў, — сказаў Гарбачоў.

Пасля размоў пра калгасы і саўгасы Міхаіл Сяргеевіч зрабіў акцэнт на заахвочванне развіцця падсобных гаспадарак сялян. На гэты конт былі пытанні і адказы. А калі адзін з сакратароў райкама партыі выказаўся, што падсобная гаспадарка адрывае селяніна ад працы ў калгасе, Гарбачоў адказаў пытаннем: "Значыць вы супраць палітыкі партыі ў гэтым пытанні?". Адказ усе зразумелі.

Міхаіл Сяргеевіч выказаў задавальненне станам сельскай гаспадаркі нашай вобласці, раёна і калгаса "Рассвет". Размова доўжылася больш дзвюх гадзін. Але за гэты час зусім не падымаліся пытанні арганізацыйна-партыйнай работы. Першы сакратар ЦК КПБ Ціхан Кісялёў і сакратар ЦК Мікалай Дземянцей актыўнага ўдзелу ў нарадзе не прымалі.

Трэба адзначыць, што Гарбачоў увесь час уважліва і з павагай выслухоўваў сваіх суразмоўцаў, не павышаў голасу, нікога не перабіваў, даваў добры прыклад такту і інтэлігентнасці ў адносінах з аўдыторыяй.

Калі нарада закончылася, мы прапанавалі гасцям перакусіць, але Міхаіл Сяргеевіч з усмешкай сказаў, што за графікам іх працы сочыць Мікалай Дземянцей, які ўжо паказваў на гадзіннік, таму, на жаль, затрымацца яны не могуць.

Госці развіталіся, і верталёт узяў курс на Гомель, дзе была запланавана сустрэча Гарбачова з кіраўнікамі Гомельшчыны, суседніх абласцей Расіі і Украіны.

**Эдуард АРОЧКА,**
былы старшыня калгаса "Рассвет" Слонімскага раёна

